

# Беларускі Час

**АНАЛІТЫКА, ГІСТОРЫЯ, ПАЛІТЫКА, КУЛЬТУРА**
Беларуская газэта ў Амэрыцы
2005 год, верасень
**№ 1 (65)**

## АД РЭДАКЦЫІ

Гэты нумар "Беларускага Часу", які чытач трымае ў руках, ёсьць новая газэта, якая, аднак, ужо існуе даўно і прайшла доўгі шлях. Задумана яна як беларускае выданьне, што будзе адлюстроўваць старонкі нашай культуры, гісторыі, палітыкі, пытаньні беларускай рэчаіснасьці. Раней газэта выходзіла пад тытулам "Belarusian Times" і саслужыла сваю добрую справу для беларускай эміграцыі і для беларускай культуры. Потым выданьне яе перапынілася і зноў аднавілася ў 2000 годзе (выйшла з таго часу чатыры нумары). Але газэта трапіла ў несумленныя, чужыя рукі. Яна мела вёрстку (склад) падобную, як у менскай газэты "Голас Радзімы". Але галоўнае тое, што газэта зьмяніла накірунак на пралукашыскі і антыадраджэнскі. Мінуў кавалак часу, пакуль беларусы агледзеліся і выправілі становішча.

"Беларускі Час" ня будзе паўтараць тэматыку газэты "Беларус". Плянуецца адлюстроўваць тэмы агульнага беларускага кшталту, прыналежныя да інтарэсаў усяго беларускага грамадзтва. Мяркуем бліжэйшы нумар прысьвяціць вялікаму пісьменьніку 20-га стагодзьдзя Васілю Уладзімеравічу Быкаву. Потым – гісторыі сучаснага беларускага адраджэньня і анталёгіі новых беларускіх ідэй; факталёгіі беларускага змаганьня за волю, дэмакратыю і незалежнасьць; канцэпцыі нацыянальнай будучыні беларусаў у разрэзе гісторыі ды сучаснасьці і інш.

У добры шлях!

*Рэдакцыя.*




**БЕЛАРУСКАЯ ДЭМАНСТРАЦЫЯ ПЕРАД БУДЫНКАМ ААН**
Чатырнаццатага верасьня перад будынкам Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў у Нью-Ёрку адбылася беларуская дэманстрацыя з нагоды саміту кіраўнікоў дзяржаваў-членаў ААН. У дэманстрацыі прыняла ўдзел беларуская моладзь, сябры БАЗА, БНФ і габрэйскіх арганізацыяў.

## Ад выдаўца

Газэта "Беларускі Час" (Belarusian Times), выдаўцом якое ад пачатку ейнае публікацыі быў і надалей застаюся я, працягам 30-ці год ейнага існаваньня была выказьнікам беларускіх патрыятычных паглядаў і незалежніцкіх імкненьняў.

Як і ўсе эміграцыйныя беларускія арганізацыі ды выдавецкія пачынаньні, газэта "Беларускі Час" у выніку адыходу пасьляваеннага пакаленьня беларускай эміграцыі, дазнала ў мінулым дзесяцігодзьдзі шмат цяжкасьцяў з камплектаваньнем складу рэдакцыі й знаходжаньнем матэрыялаў да публікацыі.

Таму пару год назад я без засьцярогаў прыняў ахвоту сп. Юркі Васілеўскага, што тады выказваўся як гарачы патрыёт і шчыры незалежнік, узяць на сябе працу і адказнасьць рэдактара газэты.

Мой давер да сп. Васілеўскага падмацаваў яшчэ й а. Ігар Якунін, што таксама ў той час выдаваў сябе за гарачага аўтакефаліста й палкага беларускага патрыёта, ды ня толькі ахвотна ўвайшоў у склад рэдакцыйнай калегіі, але й згадзіўся складаць газэту на кампутары.

Нажаль, ні новы рэдактар, ані створаная ім рэдакцыйная калегія пэрыядычнасьці газэты не ўзнавілі, а пачалі выдаваць паасобныя нумары зь вялікімі перапынкамі ды з мала заўважнымі напершы погляд адхіленьнямі ад кірунку беларускага нацыянальна-патрыятычнага руху.

Заняты працай, я, з жалем мушу прызнацца, на гэтыя адхіленьні не зьвярнуў належнае ўвагі, што сп. Васілеўскі з а. Якуніным, відаць, палічылі за маю згоду, ці нагоду да зьмены палітычнага накірунку газэты, ды без майго ведама зладзілі й надрукавалі нумар 5 (64) "Беларускага Часу" са зьместам, цалкам супярэчным папярэдня выказаным газэтай паглядам і маім перакананьням.

Затое гэты зьмест, выяўляючы

*- здрадніцкія ў дачыненьні да ідэі беларускае дзяржаўнасьці клічы й намовы на інтэграцыю Беларусі з Расеяй;*

*- перадрукоўваючы матэрыялы лукашэнкаўскай прапаганды пад лукашэнкаўскім сьцягам;*

*- выказваючы востры антыамэрыканізм і нянавісьць да Захаду ды*

*- упершыню ўводзячы ў значнай меры на бачынах газэты расейскую мову, выяўляе варожасьць сп. Ю. Васілеўскага й ягоных рэдакцыйных супрацоўнікаў да беларускіх нацыянальных ідэалаў і імкненьняў, ды да краіны, што дае гасьцінны прытулак нашай эміграцыі - Злучаных Штатаў Амэрыкі.*

Разам з гэтым гэты зьмест паказвае й на крыніцу натхненьня рэдактара й ягоных супрацоўнікаў ды, магчыма, і іншае ім падтрымкі.

З увагі на вышэй сказанае, я гэтым яшчэ раз заяўляю, што зьместу нумару 5 (64) газэты "Беларускі Час" перад ягонай публікацыяй ня бачыў, на ягоную публікацыю згоду не даваў, плаціць за друк не плаціў і плаціць ня буду.

Да гэтага, за ашуканства здымаю з пасады рэдактара газэты "Беларускі Час" сп. Юрыя Васілеўскага, сапраўднае прозьвішча якога, як я толькі даведаўся, Чудзін, а таксама звальняю усіх супрацоўнікаў рэдакцыйнай калегіі ды забараняю ім якім колечы спосабам выкарыстоўваць добрае імя газэты на іхныя нягодныя мэты.

Разам з гэтым перапрашаю беларускі незалежніцкі актыў і ўсё беларускае грамадзтва за дапушчаную праз маю неасьцярожнасьць шкоду й запэўніваю, што газэта "Беларускі Час" ня будзе выкарыстоўвацца ворагамі Беларусі й Амэрыкі.

***Расьціслаў Гарошка,***
*Выдавец і ўладальнік газэты "Беларускі Час".*

## Русіфікацыя ня мусіць быць палітыкай Эўразьвязу

Русіфікацыя ня мусіць быць палітыкай Эўразьвязу. Тое, што пасьля пратэсту беларусаў супраць вяшчаньня на Беларусь "Нямецкай Хвалі" па-расейску Эўракамісія аб'явіла новы тэндар пра вяшчаньне на Беларусь зноў на расейскай мове, сьведчыць аб поўным неразуменьні ёй сытуацыі ў Беларусі і ў цэлым ва Ўсходняй Эўропе. Гэта паказвае таксама на нежаданьне сытуацыю разумець.

Гэта дрэнна. Бо сьведчыць, што Эўразьвяз перастае быць пэрспэктыўным палітычным лідэрам ў Эўропе і дзеля інтарэсаў бізнэсу вялікіх мэдыякампаніяў адмаўляецца ад падтрымкі асноўных каштоўнасьцяў свабоды, ныцыі і дэмакратыі на ўсходзе Эўропы.

Гэта сьведчыць таксама, што палітыкі Эўразьвязу ўвогуле ня ведаюць і ня хочуць бачыць што адбываецца ў Беларусі, дзе стаўленьнік Масквы Лукашэнка забараніў сваімі "ўказамі" ўжываць словы "беларускі", "народны", "нацыянальны" ў назвах арганізацыяў і друку, дзе па загаду Лукашэнкі былі спаленыя школьныя падручнікі на беларускай мове, дзе прамаскоўскі рэжым зачыніў ужо амаль 80 адсоткаў беларускіх школаў, ліквідаваў выкладаньне ва ўнівэрсітэтах пабеларуску і пераследуе моладзь, якая змагаецца за беларускую мову і свабоду.

Беларуская мова ў Беларусі - гэта галоўная каштоўнасьць народа, незалежнасьці, дэмакратыі і свабоды. За беларускую мову змагаліся цэлыя пакаленьні беларусаў, расейцы расстралялі за мову сотні беларускіх пісьменьнікаў і тысячы беларускіх людзей.

Цяпер ў пуцінскай Расеі афіцыйны расейскі друк піша наступнае: ***"Белорусский язык - язык международного общения падонков"*** (*"Ежедневные новости".- Владивосток.- 2005 г, 26 августа*). І ніхто там гэтага не камэнтуе, не крытыкуе, не просіць прабачэньня за дзікунства. Гэта ёсьць пуцінская палітыка. Эўразьвяз падтрымлівае гэта?

**Заканчэньне на старонцы 8**

## *Зянон Пазьняк*

# ДЗІЎНЫЯ СПРАВЫ Ў БЕЛАРУСКІМ ЗАМЕЖЖЫ

### ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

Цягам апошніх некалькіх гадоў пры Беларускай царкве Кірылы Тураўскага ў Брукліне было выдадзена чатыры асобныя нумары газэты "Беларашан Таймс" пад рэдакцыяй члена Рады БАПЦ і Царкоўнай Рады Сабора Кірылы Тураўскага ў Брукліне спадара Юры Васілеўскага (Чудзіна). У складзе рэдакцыі (№№1-4) былі Расьціслаў Гарошка, Ігар Якунін, Юры Васілеўскі (Чудзін), Уладзімер Гуткоўскі і інш. Выдавец газэты спадар Р. Гарошка.

Аналіз тэкстаў №№1-4 з пункту гледжаньня палітычнай экспэртызы газэты паказвае на выразны антыадраджэнцкі, а месцамі - на грубы антыбеларускі характар надрукаванага. Так, напрыклад, у аб'яднаным №3-4 (63) у рэдакцыйным артыкуле, накіраваным супраць беларускага нацыянальнага Адраджэньня, спадар Ю. Васілеўскі дазволіў сабе выказвацца наступным чынам: **"Наяўная прэса эміграцыі, і перш за ўсё газэта "Беларус", такі кантэкст выключае** (гэта значыць адмаўленьне ад змаганьня за нацыянальнае - заўвага З. П.), **прапаноўваючы рэліктавы антыкамунізм эпохі халоднай вайны і невылечную русафобію".**

Тэрмін **"русафобія"** ў дачыненьні да газэты "Беларус" ёсьць неадэкватнай характарыстыкай і не адпавядае сапраўднасьці. Ацэначны тэрмін **"невылечная" (русафобія)** заключае ў сабе грубы зьняважлівы сэнс і абразу для выдаўцоў старэйшай беларускай газэты, паколькі падразумевае ў сабе сьцьвярджэньне аб паталёгіі здароўя, якое, на думку аўтара Ю. Васілеўскага, выяўляецца ў зьмесьце газэты "Беларус". Што таксама не адпавядае рэальнасьці і зьяўляецца нагаворам.

У сакавіку 2005 г. выдрукаваны №5 (64) "Беларашан Таймс" пад рэдакцыяй Ю. Васілеўскага (Чудзіна), выдавец - Расьціслаў Гарошка. Газэта выйшла на васьмі старонках, зь іх 5 старонак па-беларуску і 3 -- па-руску. Аналіз надрукаванага дазваляе вызначыць характар гэтага нумара газэты як адкрыта пралукашэнкаўскі, выразна прарасейскі і антыамэрыканскі. Найбольш гэта выяўлена ў перадавым рэдакцыйным артыкуле, які называецца **"Пра беларуска-расейскія ўзаемаадносіны"** і падпісаны словамі **"Землякі (калектыўны псэўданім групы аўтараў)".**

У перадавым артыкуле, фактычна, пераказаны зьмест ідэйна-палітычнай дэмагагічнай пазыцыі дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі на Беларусі. Там гаворыцца, што **"ЗША прэтэндуюць на ролю гаспадара плянэты"**, што **"Прыбалтыйскія рэспублікі - ня больш, чым амэрыканскія марыянэткі"**, што сумежныя зь Беларусьсю краіны **"служаць пляцдармам для палітычнай, эканамічнай, інфармацыйна-ідэалягічнай экспансіі Вашынгтону"**. Тут гаворыцца, што **"ў краіне робяцца пэўныя захады"** да **"адраджэньня Вялікай Расеі"** і напісана: **"Мы хочам быць часткай "Вялікай прасторы", у якой Беларусь разам з Расеяй". "Дасягнуць яе магчыма,** -- пішацца далей, -- **калі будзе існаваць дзяржава, не прывязаная да прэтэндэнта на сусьветнае панаваньне** (гэта значыць - да ЗША - *З.П.*). **"Такой дзяржавай, калі хочаце, цэнтрам зьбіраньня земляў сёньня зьяўляецца Рэспубліка Беларусь". "Такім чынам,** -- падсумоўваецца ў канцы, -- **будаўніцтва Саюзу Беларусі і Расеі можа стаць пачаткам будаўніцтва новага цэнтру сілы".**

У прыведзеных цытатах выяўленыя тыповыя прарасейскія дэмагагічныя разважаньні дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі, заснаваныя на антыамэрыканізме. Гэта набор тэзісаў з ідэалягічнага афармленьня палітыкі існуючага цяпер дыктатарскага рэжыму на Беларусі.

У газэце зьмешчана выява савецкага сьцягу рэжыму Лукашэнкі і Заява Міністэрства замежных справаў Рэспублікі Беларусь ад 19 лістапада 2004 г. Заява выяўляе пункт гледжаньня рэжыму і непраўдзівая ў апісаньні зьяваў і прычынаў, але пададзена ў газэце без камэнтароў.

У матэрыялах газэты, допісах, лістах таксама сустракаюцца сьцьверджаньні ў падтрымку антыдэмакратычнага рэжыму Лукашэнкі і непрыняцьце Амэрыкі. Напрыклад, у матэрыяле **"Ліст з Прагі (Чэхія)"** напісана наступнае: **"Сёньняшняя падоба існаваньня Рады БНР можа вельмі зашкодзіць Беларусі і беларусам, ніколі не дапаможа. Бо тое, што робяць "прафэсійныя" журналісты, і ня толькі з камуністычнай мінуўшчынай, на Радыё Свабода і цесная сувязь гэтай Суполкі з Радай, дае магчымасьць казаць, што іх дзейнасьць накіравана супраць інтарэсаў беларусаў і Беларусі як дзяржавы. Гэтыя прыслужнікі амэрыканскага імпэрыялізму ставяць сваёй мэтай дэстабілізацыю сітуацыі ў Беларусі, якая прывядзе да зьнішчэньня існуючай сацыялістычнай (дзяржаўнай) мадэлі."**

Ці, напрыклад, напісана такая апалёгія дыктатарскаму рэжыму: **"Беларусь на сёньняшні дзень -- адзіная Сацыялістычная краіна ў Эўропе, якая на сваім прыкладзе даказала, што Сацыялізм -- як палітычны і эканамічны мадэль - больш чым жыцьцяздольны".**

Калі не казаць пра зьняважлівыя словы ў тэкстах, то ў свабоднай Амэрыцы могуць, відаць, друкавацца газэты любога палітычнага сэнсу, якія не пярэчаць заканадаўству, у тым ліку і прамаскоўскага, пралукашэнскаўскага, прадыктатарскага, а магчыма - і антыамэрыканскага зьместу. Пытаньне толькі ў тым, што такая пазыцыя не адпавядае пазыцыі беларускай палітычнай эміграцыі ў ЗША і погляду Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, сябрам Рады якой зьяўляецца рэдактар "Беларашан Таймс" Юры Васілеўскі (Чудзін), а ў складзе рэдакцыі папярэдніх нумароў удзельнічаў сьвятар БАПЦ Ігар Якунін.

### СІТУАЦЫЯ

Узьнікла даволі парадаксальная сітуацыя. У асяроддзі беларускай эміграцыі (асноўная маса якой цяпер - гэта ўцекачы ад дыктатарскага прамаскоўскага рэжыму Лукашэнкі) зьявілася пралукашэнкаўская група (практычна, 2-3 асобы), якая пад дахам беларускай царквы адкрыта праводзіць антыбеларускую працу і дэманструе антыамэрыканскую пазыцыю лукашэнкаўскага рэжыму. Дайшло да таго, што 10 красавіка, з волі і блаславеньня сьвятара І. Якуніна, выкінулі нацыянальны беларускі гэрб "Пагоня" з грамадзкай залі, што пад царквой Кірылы Тураўскага ў Брукліне. "Пагоню", праўда, вярнулі ў залю парафіяне. Але факт зьнявагі беларускага нацыянальнага сымвала працаўнікам (сьвятаром) беларускай царквы застаецца.

Сітуацыя ўражвае сваёй абсурднасьцю, якая стала магчымай, таму што мала беларусаў ходзяць у сваю царкву (яны, відаць, думаюць, што іхная царква будзе існаваць сама па сабе). Пралукашэнкаўская група, бачачы гэта, пачала запрашаць у беларускую царкву расейцаў з Брайтан Біч. Гэтым, праўда, парушаецца статус царквы. Але хіба ж лукашысты прышлі ў царкву, каб паважаць яе статус?

### ТРЭБА ЗАДУМАЦЦА І ДЗЕЙНІЧАЦЬ

Канкрэтнае пытаньне, якое ўзьнікае - хто фінансуе гэтую антыбеларускую працу, за якія сродкі выдалі "Беларашан Таймс"? На маё пытаньне выдавец опуса спадар Р. Гарошка адказаў, што ён не чытаў зьместу гэтай газэты, што яго падставіў Ю. Васілеўскі (Чудзін, у Інтэрнэце -- Асак) і выдаў газэту без ягонага ведама, паставіўшы ягонае прозьвішча як выдаўца. Выходзіла, што сродкаў на выданьне газэты Р. Гарошка не даваў. Далейшы разгляд гэтай дзіўнай зьявы прыводзіць да парога дыпляматычнай місіі Рэспублікі Беларусь пры ААН у Нью-Ёрку і ў пасольства Беларусі ў Вашынгтоне, адкуль, відаць, і пайшлі сродкі на справу лукашэнкаўскага "сацыялізму".

А пачалася ўся апэрацыя, як мне паведамілі, яшчэ летам мінулага году, калі ў Нью-Ёрку зьявіўся нававысьвечаны епіскап БАПЦ Віктар Касьцюк (уладыка Васіль), які раней быў у Менску ў ведамстве Філярэта. Новы "беларускі" епіскап першым чынам, без камэнтароў і без прычыны, павыганяў усіх актыўных беларусаў з парафіяльнай Рады царквы Кірылы Тураўскага. Потым, разам зь Ю. Васілеўскім (Чудзіным) і сьвятаром І. Якуніным, яны зрабілі візіт у беларускую дыпляматычную місію пры ААН 3-га ліпеня (лукашэнкаўскае афіцыёзнае сьвята "незалежнасьці").

Тым часам Віктар Касьцюк праігнараваў найвялікшае беларускае нацыянальнае сьвята Дзень Незалежнасьці Беларусі 25 Сакавіка і 87-я угодкі БНР. Упершыню за ўсю гісторыю беларускай эміграцыі япіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы не прыслаў свайго афіцыйнага вішаваньня беларусам, Радзе БНР і ўсёй беларускай грамадзкасьці.

Пра ўсіх трох асобаў вядома мала. Віктар Касьцюк (ул. Васіль) - беларус з Пінску (1971 г.

**Працяг на стар. 3**

**Працяг са старонкі 2**

нар.). У 1999 г. скончыў Маскоўскую духоўную акадэмію, кандыдат Богаведы, выхаваны ў Рускай праваслаўнай царкве, з'арыентаваны на Расею і на РПЦ.

Ігар Якунін закончыў няпоўныя два курсы Духоўнай сэмінарыі, зь якой (за нейкую шкоду, зьвязаную з маёмасьцю) яго выключылі.

Найбольш нявысьветленая фігура - Юры Чудзін (Васілеўскі). Вядома толькі, што ён расеяц з Масквы, валодае беларускай мовай, у 90-х гадах прыехаў у Беларусь. Потым езьдзіў па асяродках беларускай эміграцыі, знаходзіўся ў Польшчы, пабываў праваслаўным, вуніятам, каталікам, потым (ужо тут, у Нью-Ёрку) зноў стаў "праваслаўным". Цяпер пачаў гаварыць ужо паруску і выявіўся адкрыта на баку лукашэнкаўскага рэжыму.

Такія мэтамарфозы адбываюцца ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве ў Амэрыцы. Па маіх назіраньнях, вінаватыя ў дрэнным стане сваёй царквы, перш за ўсё, самы беларусы, якіх цяпер у Амэрыцы шмат, але якія не навучыліся, відаць, любіць сваё і не разумеюць, што калі ўпадзе беларуская царква, то замрэ тут і беларускае нацыянальнае жыцьцё.

Зрэшты, царква трымаецца на веручых людзях. І тут пытаньне глыбокае - рахунак цэлага пакаленьня. Тым ня менш, усім беларусам у замежжы трэба задумацца аб тым, што адбываецца ў іхнай царкве. Задумацца і дзейнічаць. Нарыў, які ўзьнік, мусіць быць ліквідаваны. Інакш тыя беларусы, што ўцяклі ад перасьледу рэжыму Лукашэнкі, могуць раптам, нечакана для сябе, убачыць ягонае мурло проста перад сабой у Амэрыцы. Вось да якога абсурду можа прывесьці абыякавасьць да агульных справаў сваёй нацыі.

## НАЗІРАНЬНЕ

Характэрнае назіраньне. На працягу апошніх 5-6 гадоў у краінах Усходняй Эўропы, якія былі пад акупацыяй СССР, адбыліся падзеі, накіраваныя на зьнішчэньне беларускіх нацыянальных арганізацыяў і асяродкаў, на перацягваньне іх пад кантроль лукашэнкаўскай адміністрацыі і пад савецкі зялёна-чырвоны сьцяг БССР. У выніку, у Маскве, Пецярбургу, у Эстоніі, Латвіі, Летуве беларускія арганізацыі раскалолі. Адна частка беларусаў пайшла пад зялёна-чырвоны сьцяг БССР і пад грашовыя датацыі лукашэнкаўскага рэжыму (фінансаваньне праз пасольствы), другая - засталася на беларускіх пазыцыях 25 - га Сакавіка і Эўрапейскай незалежнасьці.

У Малдове, Казахстане, Іркуцку і іншых месцах пасольствы рэжыму Лукашэнкі і агентура ФСБ падабралі пад сябе поўнасьцю беларускія арганізацыі, якія сталі на прарасейскія, праімпэрскія пазыцыі, а некаторыя адмовіліся нават ад беларускай мовы.

Выглядае на тое, што аналягічную апэрацыю Масква хоча правесьці і ў ЗША, і робіць гэта груба і бяздарна, але надзвычай нахабна (чаго вартыя замашкі стварыць антыамэрыканскі цэнтар).

З маіх назіраньняў напрашваецца відавочная высновa аб адзінай расейскай антыбеларускай стратэгіі. Зірніце. Скончылася халодная вайна, разваліўся СССР, але антыбеларуская агентурная дзейнасьць постсавецкай Расеі ня тое што ня зьнікла ў замежжы, але нават узмацнела; ствараюцца новыя агентурныя асяродкі ў Эўропе (у Бэльгіі, Чэхіі і іншых краінах). Пастаянна адчуваецца маскоўская антыбеларуская справа ў Амэрыцы. Усё гэта каштуе вялікіх сродкаў, дыпляматычных высілкаў, высокіх затратаў.І Расея робіць гэта. Чаму?

Мэта расейскага гэбізму (якую ён не хавае) - захапіць Беларусь і ліквідаваць беларускую дзяржаўнасьць. Вольныя, арганізаваныя беларусы ў эміграцыі, куды не дастае рука Масквы, могуць аказацца вялікай перашкодай расейскаму рэжыму ў яго захопніцкай палітыцы. Вольныя беларускія арганізацыі ў замежжы могуць стаць цэнтрамі ўсебеларускай барацьбы за свабоду нацыі. Таму і робіць Расея гэтую прэвентыўную (на першы погляд, як бы незразумелую) антыбеларускую справу ў замежжы.У Маскве, як бачым, нават мову беларускую вывучаць сталі, гэтак спатрэбілася.

Усё гэта павінна падштурхнуць нас, беларусаў, да згуртаваньня і абароны нашых нацыянальных каштоўнасьцяў.

*19 красавіка 2005 г.*

## ПАСЬЛЯСЛОЎЕ

Вышэй пададзены артыкул (па-беларуску і ў ангельскай вэрсіі) быў надрукаваны ў разавым выданьні "Беларуская Салідарнасьць за мяжой" і зьмешчаны на старонцы "Беларуская Салідарнасьць" у Сеціве (bielarus.net).

У выніку друкаваньня артыкула выдавец "Беларашан Таймс" спадар Расьціслаў Гарошка радыкальна "разабраўся" з рэдакцыяй - звольніў усіх і заявіў, што галоўны рэдактар Ю. Чудзін (Васілеўскі) скарыстаўся ягоным даверам і ашукаў яго і чытачоў, за што ён, спадар Гарошка, просіць ва ўсіх прабачэньня.

Паводзіны антыбеларускай групы ў царкве сталі пасьля гэтага яшчэ больш агрэсіўнымі. У Беларускай царкве гучэла ўжо расейская вымова, на беларусаў паказвалі падбародкамі і казалі: "Яны". У час службы брайтанаўскія кабеты шнырылі па храму, з дазволу сьвятара заходзілі ў алтар (што недапушчальна па канонах царквы), пагражалі нават прыпыніць Божую службу, калі "Апостала" стане чытаць беларус Сагановіч, а не асобы з Брайтан-Біч і г.д. Усё гэта прывяло да таго, што памяркоўныя і рахманыя беларусы вырашылі сабраць Царкоўную Раду і навесьці парадак. Тут жа перад паседжаньнем Рады выступае нечакана сьвятар Якунін і зачытвае прысланыя зь Менску загады япіскапа Васіля (Касьцюка) аб ліквідацыі Царкоўнай Рады, а заадно - аб адлучэньні ад царквы шэрагу маладых беларусаў і аб забароне хаваць іх пасьля сьмерці па праваслаўным звычаі.

Апошняя выхадка, відаць, перапоўніла чашу легендарнай беларускай талерантнасьці. Рада выключыла з парафіі Ю. Чудзіна (Васілеўскага), выказала недавер сьвятару Якуніну і паставіла пытаньне перад Радай БАПЦ аб адпаведнасьці сьвятара Якуніна да службы ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

Тады антыбеларуская група пасылае ў Менск да япіскапа Касьцюка свайго пасланца (кабету з Брайтан-Біч). Кабета сустракаецца з яп. Касьцюком і нават (зь яе словаў) з амбасадарам ЗША ў Менску (што ня так проста) і вяртаецца ў Бруклін са стосам чарговых загадаў "япіскапа". Тым часам у царкву пачалі цугам прыходзіць "нейкія людзі" і шаптаць, як у песьні, пра "злавешчую цень Пазьняка". Гэта, відаць, таму, што увесь гэты спэктакль мне прыходзілася назіраць, ня кажучы нідзе ніводнага слова.

Неўзабаве сабралася Рада БАПЦ. Паклікалі сьвятара Якуніна, паслухалі ўсіх і выдалілі яго з парафіі і з БАПЦ. Тады сьвятар Якунін устаў і зачытаў чарговы загад япіскапа Касьцюка аб спыненьні дзейнасьці Рады БАПЦ. (Тут дарэчы нагадаць дасьведчаньне, што дрэнныя справы, як правіла, робяць дурныя людзі.)

Тым часам у загадзе "япіскапа" выказана думка, што БАПЦ гэта "раскольніцкая групоўка, якая не належыць да праваслаўнай царквы", што яна аддадзена пад "анафему", што "ўсіх вернікаў БАПЦ і асобаў, якія зьвярталіся ў БАПЦ, трэба ізноў мірапамазаць, перавянчаць, пераадпяваць (гэта асабліва моцна!), сьвятароў перарукапакладаць, а міранам - каяцца, з моманту знаходжаньня ў БАПЦ". А таму ён, новаспечаны япіскап Касьцюк, "спыняе" Раду БАПЦ і г.д.

Калі ў складальніка такога тэкста ўсё ў парадку з мэнтальнасьцю (а хутчэй за ўсё, у парадку), то задача яго - давесьці ўсё да абсурду і да поўнай брыдоты, каб ніхто з нармальных людзей не захацеў бы ўнікаць, цікавіцца і нават слухаць гэтыя паранойныя сваркі.

## "EXODUS"

25 чэрвеня, згодна рашэньня Рады БАПЦ, сп. Якунін павінен быў перадаць справы іншаму сьвятару. Але калі прыйшлі гэтыя справы ад яго прымаць, то аказалася, што Якунін зьнік у невядомым накірунку. Беларусы ўбачылі такую карціну: царква адчыненая, замкі і клямкі з дзьвярэй у падвал сарваныя, калпачкі з электравыключальнікаў сарваныя, тэрмарэгулятар разабраны, а паліва сістэмы ацяпленьня напалову выпалена (гэта ў 30-градусную сьпякоту на вуліцы!), тэлефон і электразванок ня дзейнічаюць - перарэзаныя зьнешнія правады, -- у алтары і царкве няма шмат царкоўных рэчаў (кнігі, падсьвечнікі, адзеньне, аналоі, антымінс і г.д.), нават будаўнічы матэрыял (трохмэтровыя брусы на 300 даляраў), што на рамонт царквы, зьніклі са двара, а ў падвале недалічыліся сьвяцільнікаў на суму 250 даляраў.

Дзіўнае відовішча. Можа, якія тэрарысты (падумалі сабе беларусы) напалі на царкву і выкралі былога сьвятара Якуніна, разам з маёмасьцю, сьвяцільнікамі і будматэрыяламі. Чамусьці ўспомніўся літаратурны пэрсанаж у Ільфа і Пятрова, які выкруціў у грамадзкім туалеце электрычную лямпачку - "ему было стыдно, но..." і г. д.

Брыдка ўсё выглядае. Але гэта пакараньне за беларускую даверлівасьць і дабрыню, за славутую беларускую "талерантнасьць", якая так падабаецца нягоднікам і ворагам Беларусі, бо ўсе яны спадзяюцца, што беларусы за паскудзтва іх каленам пад зад ніколі ня выштурхнуць.

## ВЫСЬВЯТЛЕНЬНЕ

Аналягічная карціна зь "япіскапам" Касьцюком. Ніхто сур'ёзна не пацікавіўся, што

**Заканчэньне на стар. 4**

**Заканчэньне са старонкі 3**

гэта за асоба, адкуль ён і хто. Анёльскі давер.

В. Касьцюк прыехаў зь Менску ў Нью-Ёрк, як мы ўжо адзначылі, зь ведамства Філярэта. Але адпускной ад Філярэта не прад'явіў, сказаўшы, што адпускная ёсьць, але ён яе пакажа потым.

Высьвячэньне на япіскапа адбылося на Ўкраіне. Касьцюк сам уладкоўваў гэтую справу. Высьвячалі яго тры япіскапы, пра аўтэнтычнасьць і правамоцнасьць якіх БАПЦ дакладна ня ведала, але са слоў Касьцюка, усё было нібыта гладка, правільна і законна.

Потым, аднак, з інфармацыі сьвятароў і людзей, дасьведчаных у справах царквы на Ўкраіне, высьветлілася, што правамоцнасьць гэтых япіскапаў пад сумненьнем, асабліва аднаго зь іх (імя нам вядомае), які быў некалі кіроўным мітрапалітам ва Ўкраінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве (катэдра ў Тарнопалі). Аднак за амаральныя, антыцаркоўныя паводзіны УАПЦ КП (Кіеўскі патрыярхат) растрыгла мітрапаліта і пазбавіла сану. Тады ён перайшоў у УАПЦ, якая разышлася з УАПЦ КП.

Гэты япіскап расеяц. Ён носіць пры сабе пісталет. Аднойчы ў бары напіўся і страляць пачаў, усчаў бойку з кліентамі. Расказваюць, што яго неяк запрасілі ў пасольства ЗША з нагоды Дня незалежнасьці. Япіскап прышоў п'яны, на прыёме яшчэ дапіў і пачаў бойку з запрошанымі гасьцямі. Амэрыканцы ня ведалі, што рабіць.

У размовах на Ўкраіне вышэйапісанага "япіскапа" лічылі агентам ФСБ, пра гэта казалі нават у дзяржаўных ворганах Украіны. Але люстрацыі на Ўкраіне яшчэ ніхто не праводзіў, і пытаньне застаецца адчыненым.

В. Касьцюк затаіў і не прызнаўся, што адзін зь япіскапаў расстрыжаны і несапраўдны. У БАПЦ пра гэта ніхто ня ведаў. Цяпер жа ўсё высьвятляецца.

Ужо пасьвечаны на беларускага япіскапа, Касьцюк пісаў у Інтэрнэце наступнае: "Мы выступаем против каких-либо спекуляций на темы автокефалии и намерены искать пути сближения с Белорусской Православной Церковью на Беларуси" (гэта значыць, зь Беларускім Экзархатам РПЦ і Філярэтам).

Вось дык пляны! І ніхто зь беларусаў у сваім часе гэтага не чытаў.

У іншым месцы "япіскап" Касьцюк піша, што праваслаўны вызначаецца па адносінах да Расеі, бо "православный" ня можа не любіць "Россию" і г.д. Адкуль і як зьяўляюцца такія "прадукты" - мы ведаем.

## ЯК У СВАІМ ДОМЕ

Цяпер у беларускай царкве Кірылы Тураўскага ў Брукліне зноў шмат беларусаў, гучыць беларуская мова, усе адчуваюць сябе, як у сваім доме, ва ўсіх прыветныя аблічны, радуюцца адзін аднаму. У грамадзкай залі беларусы разам абмяркоўваюць свае справы, праблемы, разам абедаюць, тут жа, за чыстымі сталамі, і нідзе не відаць цяпер панурага погляду з-пад ілба, і ня чутна ні нахабнага чужога голасу, ні злоснага шыпеньня.

Пасьля рамонту будынак царквы будзе зноў асьвечаны, каб не чуваць было брыдкага духу. Гэтак будзе і ў нашай Бацькаўшчыне Беларусі!

*12 ліпеня 2005 г, Нью-Ёрк*

**Зянон ПАЗЬНЯК**

**Аляксандар Старыкевіч**

# АХОЎНАЯ ГРАМАТА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Гісторыя Беларусі ведае ня так шмат агульнанацыянальных форумаў. Адным зь іх стаўся Усебеларускі Зьезд 2000 года, які сабраўся дзеля стварэньня Акта Незалежнасьці.

Напрыканцы XX стагодзьдзя ўзьнікла рэальная пагроза, што Беларусь страціць толькі што адноўлены дзяржаўны суверэнітэт. Адразу пасьля прыходу да ўлады Аляксандар Лукашэнка вылучыў ідэю інтэграцыі з Расіяй аж да аб'яднаньня. У сьнежні 1999 года былі падпісаныя дамова пра стварэньне адзінай саюзнай дзяржавы ды яшчэ пакет дакумантаў, якія прадугледжвалі агульную валюту, агульныя ўзброеныя сілы і г.д.

Усё гэта адбывалася на фоне абыякавага стаўленьня грамадзтва да дзяржаўнай незалежнасьці. Было відавочна, што пляны ўлады амаль не сустракаюць перашкод. І тады шэраг вядомых і аўтарытэтных у краіне людзей зьвярнуліся да досьведу Усебеларускага Зьезду, які адбыўся ў 1917 годзе. Менавіта тады, ва ўвесь голас было пастаўленае пытаньне пра суверэнную беларускую дзяржаву. Лягічным працягам Зьезду сталася абвяшчэньне ў сакавіку 1918-га Беларускай Народнай Рэспублікі. Нават тыя афіцыйныя гісторыкі, што схільныя прыніжаць ролю БНР, не адмаўляюць, што яе зьяўленьне мела шэраг наступстваў. У прыватнасьці, бальшавікі, якія напачатку наогул не разглядалі беларусаў, як самастойную нацыю, істотна скарэктавалі сваю лінію і вырашылі стварыць Беларускую Савецкую Сацыялістычную рэспубліку. Натуральна, што БССР не была ані незалежнай, ані дзяржавай. Аднак праз яе статус, калі сканаў Савецкі Саюз, беларусы аднавілі сувэрэнітэт. Такую вось каштоўную спадчыну пакінулі нам продкі.

Па гэтым шляху выправіліся і арганізатары Усебеларускага Зьезду 2000 года. Адпачатку было вырашана, што адзіная мэта яго скліканьня - Акт незалежнасьці Беларусі. Гэты дакумант мусіў падсумаваць заканадаўчыя гарантыі незалежнасьці, якія меліся ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, законе аб рэферэндуме ды інш., і стварыць новыя.

Вылучэньне дэлегатаў было беспрэцэдэнтна шырокім. Яно адбывалася і праз сходы грамадзянаў, і ад арганізацыяў. У выніку на Зьезд прыехалі 1470 дэлегатаў з 104 раёнаў Беларусі. Старшынстваваў знакаміты акадэмік Радзім Гарэцкі, старшыня Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына".

**Праект Акту, распрацаваны з удзелам лепшых юрыстаў краіны (у тым ліку экс-суддзяў Канстытуцыйнага Суда) быў папярэдне надрукаваны ў шэрагу незалежных выданьняў, каб зацікаўленыя грамадзяне маглі** выказаць свае прапановы. Удасканальваўся ён і пад час хады Зьезду. І хаця спрэчкі мелі вельмі востры характар, урэшце Акт Незалежнасьці Беларусі быў прыняты амаль аднагалосна.

"Мы, дэлегаты Усебеларускага Зьезду сьведчым Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву зь яе адвечнымі сымбалямі - бел-чырвона-белым сьцягам і гэрбам "Пагоня"; абвяшчаем незалежнасьць і дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасьцю беларускага народу; прызнаём не маючымі законнай сілы любыя пагадненьні і рашэньні, скіраваныя на скасаваньне альбо абмежаваньне суверэнітэту Беларусі", -- гаворыцца ў Акце.

Усебеларускі Зьезд меў міжнароднае прызнаньне. Прывітальные тэлеграмы даслалі прэзыдэнт Чэхіі Вацлаў Гавел і яшчэ шэраг вядомых замежных дзеячоў. Напярэдадні Зьезду арганізатары наведалі амбасады эўрапейскіх краінаў і распавялі дыпляматам пра мэты форуму, сустрэўшы з боку тых цікавасьць і падтрымку.

Істотна і тое, што Зьезд паспрыяў яднаньню нацыянальна-дэмакратычных сілаў унутры краіны. Прыкладам, няма сакрэту, што дачыненьні паміж Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыяй БНФ і партыяй БНФ досыць складаныя. Але пад час Зьезду сябры гэтых арганізацыяў забыліся на ўсе рознагалосьсі і працавалі разам. Наогул, ідэі Акту падтрымалі прадстаўнікі 227 грамадзкіх арганізацыяў, палітычных партыяў і праф-саюзаў.

Пэўны час здавалася, што і ўлады Беларусі адмовілася ад плянаў аб'яднаньня з Расеяй і скасаваньня дзяржаўнага сувэрэнітэту. Намеры Аляксандра Лукашэнкі заняць месца Барыса Ельцына пацярпелі крах, пасьля таго, як прэзыдэнтам суседняй краіны стаў Уладзімер Пуцін. Некалькі год стасункі паміж гэтымі двума палітыкамі былі досыць складанымі. У выніку афіцыйны Менск сабатаваў стварэньне саюзнай дзяржавы. Аднак у 2005 годзе сітуацыя пачала мяняцца. З аднаго боку, беларускае кіраўніцтва напалоханае падзеямі ва Украіне, з другога - у Расеі паступова мацнеюць імперскія настроі. Таму Крэмль шукае варыянты тэрмінова далучыць Беларусь, бачачы ў гэтым адзіную магчымасьць захаваць яе ў сваёй сфэры ўплыву.

Адпаведна, актуальнасьць Акта Незалежнасьці з цягам часу не губляецца, а наадварот павялічваецца. Гэта засьведчыў і Зьезд беларусаў сьвету, што адбыўся ў Менску 16-17 ліпеня 2005 году. У яго рэзалюцыі гаворыцца пра падтрымку Акта. Між іншым, арыгінал гэтага дакументу перададзены на захаваньне Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі. Такім чынам, роля дыяспары ў справе абароны суверэнітэту Беларусі ацэньваецца досыць высока.

**Хочацца верыць, што неўзабаве страта незалежнасьці нашай краінай наогул будзе немагчымай. Аднак пакуль што, гэткая праблема застаецца пагрозьлівай. Таму**

### АХОЎНАЯ ГРАМАТА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

"спадзявайся на лепшае, рыхтуйся да горшага" - дзякуючы гэтаму прынцыпу мы павінны захаваць дзяржаўны сувэрэнітэт нашай Бацькаўшчыны.

# "пярэварацень"

У нядзелю, 12-га чэрвеня 2005 года, на сьвята "Ушэсьце Ісуса Хрыста ў неба" багаслужба ў саборы сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне пачалася не ў 9 гадзін, а пазьней, у 9.25. Сьвятар Ігар Якунін распачаў службу з "Хрыстос Воскресе", а гэта было не дапушчальна, таму што Ісус Хрыстос ужо ўзьнёсься на неба. Незразумелыя паводзіны сьвятара сталі ўсім зразумелыя пры заканчэньні багаслужбы. Сьвятар І. Якунін не клапаціўся аб чысьціні сваёй душы і міру ў сэрцы перад тым як ісьці на багаслужбу, каб з чыстым сэрцам і пакорай выконваць таямніцтвы спаведаньня, а гэта значыць прымірэньня чалавека з Богам. У гэты час сьвятар павінен сачыць як дзейнічае на парафіянаў Святы Дух, павінен спрыяць Яго дзеяньню, змагацца супраць апушчэньня, ваганьняў і няверы.

Але ў сьвятара Якуніна былі іншыя клопаты: як бы хутчэй разагнаць беларусаў зь беларускай царквы. І. Якунін вельмі быў заклапочаны, каб не забыцца аб"явіць чарговы "загад" аб адлучэньні ад царквы парафіянаў-беларусаў, працаўнікоў у славу Бога і Царквы, аддаць іх "анафеме" з забаронай пахаваньня па праваслаўнай традыцыі. Усё гэта рабілася пры садзеяньні нядаўна прызначанага япіскапа Васіля (Касьцюка) і некаторых новых рускамоўных парафіянаў з Брукліна.

12-га чэрвеня сьвятар нават не закончыў багаслужбу, не правёў абрад цалаваньня Крыжа і адразу стаў зачытваць "загады". Калі большасьць парафіянаў абурылася і пачала выказваць незадавальненьне сьвятару за яго грубыя парушэньні ў правядзеньні багаслужбы і за бязглуздыя загады, то некалькі жанчынаў з Брукліна ўзнэрваваліся і закрычалі: "Якое вы маеце права выказваць незадавальненьне сьвятару, гэта непавага да сьвятара, ён Богам пасланы нам на служэньне".

Дык вось, паважаныя браты і сёстры ў Хрысьце. Каго пасылае Бог, той дзеля людзей служыць Богу і дзеля Бога -- людзям. Сьвятара І. Якуніна выбіралі людзі, парафіяне, спадзяваліся на добрае, на ягонае служэньне Богу і Царкве ды не дачакаліся. Спадар Барыс Данілюк даваў яму рэкамендацыю на сьвятарства і пасьля адпаведных працэдураў Якунін быў узьведзены ў сан ярэя, якому даецца Богам дабраслаўленьне сьвятарства, права і дабраслаўленая сіла выконваць таемствы эўхарыстыі, хрышчэньня, мірапамазаньня, споведзі. За дабро і прыхільнасьць сп. Данілюк атрымаў "аддзяку" і ад сьвятара І. Якуніна, і ад япіскапа Васіля (Касьцюка) у выглядзе зьневажальных "загадаў".

Але за што? Не прыдумалі нават тлумачэньня, каб пазбавіцца вернікаў-беларусаў, на якіх трымаецца беларуская царква.

Вось і задумайцеся, якая чысьціня душаў у гэтых людзей, які ў іх мір і якая любоў? Ды ці была гэтая любоў у іх навогул, і дзеля якой мэты яны тут "працавалі"?

Напісана: ***"Бог ёсьць любоў, і хто жыве ў любові, той жыве ў Богу і Бог у ім"*** (1 Ян,4,16). Мы ведаем, што існуе ў гэтым сьвеце дабро і зло. Дабро - ад Бога, а зло - ад шатана (сатаны).

Часта мы чуем такія размовы, што нейкі чалавек мае добрую адукацыю, але ён бедны духоўна. Духоўнасьць - гэта праяўленьне дзеяньня Сьвятога Духа ў чалавеку. Але чалавеку трэба шмат працаваць над сабой, ведаць Слова Божае, гэта значыць узрастаць духоўна. Мы ня бачылі ў, мякка кажучы, дзіўных "загадах" япіскапа Васіля ніводнай спасылкі на Слова Божае, адны толькі цытаты з жыцьцяў Сьвятых, а гэта азначае, што япіскап Васіль не кіруецца Словам Божым (Бібліяй).

Вось як цікава піша на гэту тэму Мітрапаліт Суражскі Антоній (з Расеі): ***"Вельмі часта маладыя сьвятары, што вышлі з багаслоўскіх школаў, думаюць, што рукапалажэньне надзяліла іх і розумам, і распазнаваньнем духа. Гэтыя маладыя людзі думаюць што іх навучылі ўсяму таму, што можа ім дапамагчы ўзяць каючагася грэшніка і падняць яго з зямлі на неба. Але гэта ня так. Каб грэшнік адкрыў сваё сэрца і душу духоўніку, трэба шмат гутарыць зь ім, узрошчваць яго. Нажаль малады сьвятар з прычыны свайго сьвятарства, а не таму што ён духоўна вопытны, ці Бог яго да гэтага прывёў, пачынае кіраваць сваімі духоўнымі дзецьмі загадамі: -- гэтага ты не рабі, гэта рабі, такую літаратуру не чытай, у царкву хадзі, адбівай паклоны, чытай малітву па нейкіх трафарэтах. У выніку выходзіць нейкая карыкатура духоўнага жыцьця. З боку духоўніка -- гэта катастрофа, таму што ён урываецца ў такую вобласьць, у якую ў яго няма ні права, ні вопыту ўрывацца. Ламаць чалавека дзеля таго, каб зрабіць яго падобным на сябе - нельга! Чалавека не будуюць, ня робяць, а яму дапамагаюць расьці па меры яго прызваньня. Духоўны айцец павінен бачыць у чалавеку неадлучную прыгажосьць вобразу Божага. А калі духоўнік ня можа бачыць гэтую прыгажосьць, то ён ня можа чалавека і весьці. Увесь час духоўнік павінен вучыць сваіх дзяцей і вучыцца сам пакоры, паслухмянасьці, міру ў сэрцы і любові Божай".***

Але калі мы бачым заўсёдныя сваркі ў царкве, якія адбываюцца па віне сьвятара, які злуецца, хлусіць, не мае пакоры і прабачэньня, які ня хоча адумацца, куды ён вядзе сваіх вернікаў-парафіянаў, то і ня трэба нам такі сьвятар.

Шмат было гутарак са сьвятаром І. Якуніным, стараліся не падрываць ягоны сьвятарскі аўтарытэт, не аб"яўлялі пра ягоныя паводзіны іншым парафіянам, бо чакалі, што адумаецца сьвятар, ён малады яшчэ, навучыцца. Але дарэмна. Ён і ня думаў вучыцца і не стараўся на дабро дзеля Царквы.

Сьвятар І. Якунін быў супраць папаўненьня царквы беларускай моладзяй. Па яго загаду была выкінута выява гэрбу Пагоня з грамадзкай царкоўнай залі. Справа даходзіла да таго, што калі зьбіралася шмат моладзі на паседжаньні БАЗА, то сьвятар псаваў туалет, каб сістэма ня дзейнічала і ў людзей узьнікалі б непрыемнасьці. У гэты ж час нехта адключыў халадзільнік (у царкве жыў толькі сьвятар), дзе захоўваліся прадукты. Напрыклад, так сталася 9-га студзеня калі павінна была сабрацца моладзь у царкоўнай грамадзкай залі на паседжаньне. Дык амаль усе прадукты прышлося выкінуць. (У нашай царкве заўсёды робіцца пачостка для людзей, што да нас прыходзяць.)

Сьвятар І. Якунін, абапіраючыся на групу набліжаных да яго бруклінскіх "парафіянак", стаў дзейнічаць адкрыта і зачытваць розныя неўласьцівыя "загады", якія ад канца красавіка ён абвяшчаў амаль кожную нядзелю. Нават на Вялікдзень япіскап Васіль (які жыве ў Беларусі) "працаваў" не пакладаючы рук і выдаваў свае "загады" супраць беларусаў-парафіянаў. Тым часам служба на Вялікдзень сьвятаром была скамечана, праведзена нядбайна, пачалася нашмат пазьней як трэба. Нават малітву-гімн "Магутны Божа" сьвятар Якунін памкнуўся ў гэты дзень выкінуць з багаслужбы, але хор засьпяваў насуперак ягоным спробам недапусьціць сьпяваньня беларускай малітвы.

Таму настаў час, калі цярпеньне вернікаў скончылася. Рашэньнем Рады БАПЦ ад 12 чэрвеня 2005 года І. Якуніну было забаронена праводзіць багаслужбы (з 19-га чэрвеня). Ён абавязаны быў да 25-га чэрвеня спыніць пражываньне у царкве і перадаць усе царкоўныя справы і каштоўнасьці сьвятару Вячаславу Логіну. Але, нажаль, перадача царкоўных каштоўнасьцяў не адбылася, таму што І. Якунін зьнік з царквы. Але перад гэтым зламаў замок на скрыні для пошты, сарваў замок з прабоем зь дзьвярэй у царкоўны падвал і потым дзьверы забіў цьвікамі. Ён зьнёс ключы ад канцылярыі. Потым высьветлілася, што тэлефонная лінія ня дзейнічае (Якунін перарэзаў дрот знадворку), электравыключальнікі і рэгулятар ацяпленьня зламаныя, з царквы, з алтара і з падвала зьнікла шмат царкоўных рэчаў і маёмасьці. Дык хто ж такі ёсьць гэты Ігар Якунін?

Калі 25-га чэрвеня прыехаў сьвятар Вячаслаў і разам з парафіянамі М. Сагановічам, А. Колбунам, Л. Сагановіч увайшлі ў царкву, то высьветлілася, што самай важнай рэчы (антымінсу), без якой не адпраўляецца багаслужба, у царкве не было. Недалічыліся двух аналояў, памінальнага падсьвечніка, кніг і іншых рэчаў.

Дык ці мае права такі чалавек называцца сьвятаром? Перад Вялікаднем ён на словах заклікаў усіх да міру і любові, а як на справе дык, як пярэварацень, рабіў шкоду на зьнішчэньне нашай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

**ЛІНА САГАНОВІЧ**
*парафіянка царквы Сьв. Кірылы Тураўскага*
*14ліпеня 2005 г*

